# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

БАЦЬКАЎШЧЫНА

№5 (264)

травень 2024

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"


**У НУМАРЫ:**

## Як у Беластоку бацькі аб'ядналіся, каб іх дзеці ведалі сваю мову і традыцыі

У Беластоку школьнікі з беларускай меншасці могуць вывучаць родную мову. Гэтага яшчэ 26 гадоў таму дамагліся бацькі. А пазней яны стварылі аб'яднанне АБ-БА (АБ'яднанне БАцькоў), каб засвойванне беларускай мовы і культуры было больш вясёлым і прывабным для дзяцей.

Старонка 5






# У ВІЛЬНІ ПРАЙШЛА ВЕЧАРЫНА ПАМЯЦІ МІРАСЛАВА ЛАЗОЎСКАГА

Увечары 16 мая ў Вільні сабраліся сябры і паплечнікі беларускага грамадскага дзеяча, кнігавыдаўца, аднаго з заснавальнікаў "Белага Легіёну", камандзіра падраздзялення батальёна "Волат" Палка Каліноўскага Міраслава "Мыша" Лазоўскага. Год таму Міраслаў загінуў, прыкрываючы адыход пабрацімаў ва ўкраінскім Бахмуце.

Вечарына памяці праходзіла ў Музеі акупацыі Літвы.

### "Памяць мацнейшая за смерць"

Вядоўца імпрэзы, журналіст, кнігавыдаўца, заснавальнік беларускай бібліятэкі "Камунікат" **Яраслаў Іванюк** нагадаў пра самыя вядомыя факты з жыцця Міраслава Лазоўскага: "Мірык удзельнічаў у розных мітынгах беларускай апазіцыі, у тым ліку вясной 1999 года ў Маршы Свабоды, пасля якога яму прысудзілі суткі. У 2000-м яму прысудзілі штраф за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Пасля гэтага ён вельмі актыўна ўключыўся ў дзейнасць незалежных беларускіх арганізацый, найперш Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", пазней кампаніі "Будзьма беларусамі!", з 2012 года заняўся кнігавыдавецкай дзейнасцю, распаўсюдам літаратуры, стаў супрацоўнікам выдавецтва "Беларускі кнігазбор". Быў падазраваны па справе выбуху на Стэле, пазней быў фігурантам "Справы патрыётаў" – яму падкінулі ў багажнік машыны зброю. Меўся быць гучны паказны працэс, які, на шчасце, не адбыўся. Быў удзельнікам 7-га З'езда беларусаў свету. Увосень 2021-га, калі ліквідаваліся многія незалежныя арганізацыі, Мірык вырашыў эвакуявацца ва Украіну. Калі пачалася вайна, ён захацеў уступіць у шэрагі байцоў, якія змагаліся з расейскай агрэсіяй. Мірык быў адным з камандзіраў групы ў батальёне "Волат", змагаўся пад Кіевам, Херсонам, Лазавым, Бахмутам. Да 16 траўня 2023 года, калі загінуў, прыкрываючы эвакуацыю параненых байцоў сваёй групы".

"Сам я з Мірыкам пазнаёміўся больш за 10 гадоў таму. Звычайна мы сустракаліся ў сядзібе ЗБС "Бацькаўшчына", таксама на кніжных кірмашах у Варшаве, Беластоку, з'ездзілі ў мой родны ліцэй у Бельск-Падляскі, дзе сустракаліся з вучнямі. Мірык адзначаны некалькімі ўзнагародамі Рады БНР за свае баявыя заслугі, але я лічу, што ён не дачакаўся адпаведнай узнагароды менавіта за ўклад у развіццё беларускай культуры" – апавёў Яраслаў Іванюк гісторыю свайго асабістага знаёмства з Міраславам Лазоўскім.

**Людвіка Кардзіс**, сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, уручыла Ніне Шыдлоўскай, былой жонцы і паплечніцы Міраслава, Ордэн Жалезнага рыцара з кавалерскім крыжам: "Паводле апошніх звестак, на расейска-ўкраінскай вайне загінула 46 нашых хлопцаў – найлепшых, мужных, годных.

Працяг на старонцы 4.

навіны

# СВЯТА Ў САБОРЫ СВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

У нядзелю 28 красавіка 2024 шмат нью-ёркскіх беларусаў сабралася ў будынку Сабору Св. Кірылы Тураўскага на 401 Атлантык-Авеню ў Брукліне, каб адзначыць парафіяльнае свята Сабору. Сёлета яно супала з Вербніцаю і атрымалася яшчэ больш урачыстым. У якасці шаноўных гасцей былі прысутныя прыхаджане Царквы Св. Кірылы Тураўскага з Квінса на чале з настаяцелем Царквы а. Васілём.



Адмыслова дзеля гэтага святкавання прыехаў з Таронта кіраўнік Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Уладыка Святаслаў. Ён узначаліў багаслужбу, якая пачалася а 10 гадзіне раніцы ў царкоўнай зале, яму прыслугоўвалі святары – а. Іван і а. Васіль. Як заўсёды традыцыйна перад Вялікаднем, адбылася калектыўная споведзь вернікаў, выглядала гэта вельмі ўзрушальна, адчувалася, што людзі шчыра спавядаліся перад Богам у сваіх грахах і адчувалі асаблівую ўдзячнасць Усявышняму за адпушчэнне іхных вольных і нявольных грахоў.

Напрыканцы багаслужбы адбылося асвячэнне вербачак, якія пасля гэтай дзеі разабралі прысутныя, каб занесці дадому зялёныя галінкі, якія ёсць сімвалам надыходу Вялікадня, яны нагадваюць нам пра тое, што наступны тыдзень трэба праводзіць у спакоі і малітвах, згадваючы пра пакуты Хрыста, пра ягонае ўкрыжаванне і наследнае Уваскрэшанне. Паводле даўняй народнай традыцыі многія лагодна сцёбалі вербачкамі адно аднаго са словамі: “Ні я б’ю, вярба б’е, за тыдзень Вялікдзень”.

На завяршэнне ўрачыстасцяў царкоўны хор і прысутныя з натхненнем праспявалі разам гімн “Магутны Божа”.

На добры ўспамін было зроблена агульнае фота ўдзельнікаў святкавання.

Асаблівая падзяка належыць Сястрынству пад кіраўніцтвам сп. Тацяны Красоўскай, што падрыхтавалі абед для прысутных з посных, але вельмі смачных страваў.

**Ганна Сурмач, bielarus.info**

# НАРВЕЖСКІ ПЭН ПРЫНЯЎ У ГАНАРОВЫЯ СЯБРЫ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

15 траўня на гадавым сходзе Нарвежскага ПЭНу ў яго ганаровыя сябры ўрачыста прынялі зняволенага праваабаронцу Алеся Бяляцкага.



З абгрунтаваннем прапановы выступіў Ёрген Фрыднэс, генеральны сакратар Нарвежскага ПЭНу, ён жа старшыня Нарвежскага Нобелеўскага камітэту.

“Мы ганарымся тым, што падтрымліваем Алеся ў ягонай працы на карысць дэмакратыі ў Беларусі”, – заявіла Анн-Маргрыт Эўстэно, старшыня Нарвежскага ПЭНу.

На сходзе паказалі фрагменты фільма “Беларусь: апошняя дыктатура ў Еўропе” пра Алеся Бяляцкага з серыі шасці стужак аб праваабаронцах “Сэрца, якое ніколі не памрэ” (Эрлінг Борген і Том Гайнэман).

На сходзе выступіла жонка Бяляцкага Наталля Пінчук. Яна падзякавала нарвежскім творцам грамадству за разуменне і падтрымку свабодалюбных памкненняў беларусаў.

“Унутраную свабоду нясе ў сабе і Алесь, і ніякая турма і здзекі яго не зломяць духоўна”, – перакананая яна.

Наталля Пінчук расказала пра жыццёвы шлях Алеся Бяляцкага, які яшчэ ў пачатку 1980-х памнажаў тэксты беларускіх пісьменнікаў і публіцыстаў, забароненыя ў СССР, і выпускаў з сябрамі ўласныя самвыдатаўскія часопісы, а ў 1986 годзе, упершыню за пасляваенны час у савецкай Беларусі, кінуўшы выклік манаполіі камуністычнай улады, Алесь з аднадумцамі стварылі літаратурнае згуртаванне “Тутэйшыя” дзеля свабоды беларускага мастацкага слова.

“У кароткі час адноснай свабоды Алесь знаходзіў і вяртаў у літаратурную прастору імёны пісьменнікаў, рэпрэсаваных ці забытых у СССР. Даследаваў новую беларускую літаратуру пачатку ХХ стагоддзя як складнік адраджэння мадэрнай беларускай нацыі. Але гісторыя апісала змрочную пятлю – і ў Беларусь зноў прыйшла дыктатура. Алесь без ваганняў усклаў на сябе місію праваабаронцы”, – нагадала Наталля Пінчук.

Яна расказала нарвежскім творцам пра палітзняволеных у Беларусі, у тым ліку пісьменнікаў і журналістаў.

“Не ведаю, калі ўдасца перадаць Алесю вестку пра гонар, які аказаў яму Нарвежскі ПЭН. Але яна засведчыць, што пра яго помніць супольнасць творцаў і ўвесь свабодны свет. Яна пакажа ўладам, што ў свеце Беларусь не забытая, пра Бяляцкага памятае Нарвегія, дзе ён атрымаў годнасць нобелеўскага лаўрэата”, – сказала Наталля Пінчук і запатрабавала вызвалення беларускіх палітычных вязняў без усякіх умоваў.

**svaboda.org**

**in memoriam**

# У ВІЛЬНІ ПРАЙШЛА ВЕЧАРЫНА ПАМЯЦІ МІРАСЛАВА ЛАЗОЎСКАГА

Працяг са старонкі 1.

Прыйдзе час, калі гэтыя людзі будуць належным чынам уганараваныя ў нашай краіне, іх імёнамі будуць называныя вуліцы, пляцы, ім будуць прысвечаныя паэмы, раманы, фільмы. Памяць мацнейшая за смерць”.

### “Пра такіх людзей кажуць: соль зямлі”

Кіраўніца ЗБС “Бацькаўшчына”, каардынатарка кампаніі “Будзьма беларусамі!” **Алена Макоўская**: “Мы з Мірыкам пазнаёміліся ў 2000 годзе, калі я прыйшла на працу ў “Бацькаўшчыну”. Ён браў удзел у мерапрыемствах кампаніі “Будзьма беларусамі!”, займаўся арганізацыяй аховы з’ездаў. Меў выдатнае пачуццё гумару, быў вельмі эрудзіраваны, начытаны, у яго прысутнічала і іронія, і самаіронія, дапытлівы розум, крытычнае мысленне – гэта ўсё рабіла гутаркі і дыскусіі з ім вельмі цікавымі. Іх было шмат, бо шмат было і працоўных вандровак – па Беларусі і па замежжы. Але самымі яскравымі былі ягоныя аповеды пра гісторыю Беларусі. Ён быў вельмі надзейным, на яго можна было разлічваць у самыя цяжкія моманты. Ён умеў сябраваць і гуртаваць вакол сябе людзей, у яго было вельмі шмат сяброў, якія любілі і паважалі яго. Калі мы ехалі на пахаванне Каліноўскага ў 2019-м у Вільню, то процьма людзей аклікала яго: “Мірык, хадзі да нас!”, “Мірык, пабудзь з намі!” – было адчуванне, што яго ўсе ведаюць”.

Алена Макоўская называе Міраслава Лазоўскага “чалавекам нязломным, бо нягледзячы на ўсе пакуты, на ўвесь той ціск, які ён зазнаў, ён працягваў працаваць дзеля Беларусі”. “Тое, што ён пасля выбраў Украіну і вырашыў тым самым змагацца за Беларусь – гэта лагічнае, паслядоўнае рашэнне яго жыцця. І ягоная смерць падчас ратавання таварышаў – гэта таксама тое, што гаворыць, кім быў па сутнасці Мірык. Нашым героем, беларускім волатам, тым, хто зараз трымае вось гэта беларускае неба над намі. Пра такіх людзей кажуць: соль зямлі”, – сказала Алена Макоўская.

Міраслаў Лазоўскі нарадзіўся 10 ліпеня 1973 годзе ў Мінску. Ягоная маці родам са Слуцка, бацька – з-пад Магілёва. Міраслаў атрымаў інжынерную адукацыю ў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі. Праз сваю зацікаўленасць гісторыяй у пачатку 90-х гадоў далучыўся да беларускага патрыятычнага руху, у 1995-м увайшоў у Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, з моладзевага крыла якога з часам паўстала арганізацыя “Белы легіён”. Міраслаў стаў адным з лідараў гэтай арганізацыі.




Узнагароды Міраслава Лазоўскага

### “Ягоная энергія гатова была проста перакрочыць горы”

Літаратуразнавец **Ціхан Чарнякевіч**: “Мне вельмі пашчасціла, што я пазнаёміўся з гэтым чалавекам. Мне здаецца, кожны чалавек, у жыцці якога ўвайшоў Міраслаў, будзе з гэтым адчуваннем жыць да канца сваіх дзён – сімвал яркага, моцнага, жыццялюбнага чалавека, што нават зараз дае надзею і сілу пераадольваць цяжкасці. Я, па шчырасці, такім адчуваннем і жыву, таму што ён нікуды не знік з майго жыцця і не знікне ніколі”.

Ціхан Чарнякевіч успамінае супольную працу з Міраславам ад 2015 года: “Заўсёды кава, цыгарэта, размова. Часам на падвышаных танах. Ён быў чалавекам, які прымае іншы пункт погляду, але ў той жа час ні на міліметр ад свайго не адступіць. Ён вельмі прынцыповы, вельмі цвёрды ў сваіх перакананнях, такі не сыдзе, не адступіць”.

Паводле Ціхана Чарнякевіча, у асобе Міраслава Лазоўскага адчувалася, што “ягоная энергія гатова проста перакрочыць горы”: “Ён мог быць вельмі шмат у якіх прафесіях літаральна неабходны Беларусі, быць вельмі яркай асобай – ён проста вось як зорка свяціў так горача, што грэў усіх, хто яго ведаў. Пэўна, апошні раз я з ім размаўляў перад ад’ездам, пра тое, у якія тартарары ўсё ляціць і што мы яшчэ не ўсведамляем, наколькі глыбока гэта ўсё... Нічога кепскага не магу ўспомніць пра гэтага чалавека.

Чалавек дабрыні, сілы, моцы і жыццядзейнасці, які ніколі больш мне ў такім вось уцялесненні не сустракаўся”.

### “Герой Украіны і герой Беларусі адначасова”

Былы баец Палка Каліноўскага **Аляксандр “Кусь” Клачкоў**: “Для мяне Міраслаў “Мыш” Лазоўскі – герой і Украіны, і Беларусі адначасова. Смерць Міраслава – страта для ўсёй Беларусі. Але нам трэба прайсці гэты шлях. Калі штосьці атрымоўваем лёгка, мы гэтага не шануем. Гэтыя трагедыі, ахвяры – падмурак нашай будучай незалежнасці, які будзе ўжо вельмі складана пахіснуць. Для нас наступіў час выпрабаванняў – для беларусаў як нацыі. Для многіх прасцей зараз адмовіцца ад сваёй беларускасці. Міраслаў Лазоўскі жыў і загінуў беларусам”.

### “Даказаў, што ён здольны ўсе цяжкасці пераадолець”

Журналіст “Радыё Свабода”, былы палітзняволены **Алег Груздзіловіч**, пазнаёміўся з Міраславам Лазоўскім у газеце “Свабода”: “Гэта быў для мяне найперш чалавек, які прыгожа малюе і з гумарам ілюструе падзеі. Калі я пазней раптам убачыў яго ў ахове нейкай акцыі, то здзівіўся. А потым яшчэ больш здзівіўся, калі даведаўся, што Міраслаў узначальвае “Белы легіён”. Потым я як журналіст стаў ужо рыхтаваць з Міраславам матэрыялы – усе мараць пра такія крыніцы інфармацыі: спакойны, дасведчаны, кампетэнтны, заўсёды гатовы нешта расказаць. Я не ведаў, што ён ва Украіне, але думаў, што ён там акажацца. Калі ўжо я выйшаў з турмы, то адзін добраахвотнік расказаў, што ў яго ёсць камандзір, вопытны і аўтарытэтны, якога ён называў “Генерал”. Я для сябе вырашыў, што гэта, пэўна, Міраслаў. А потым пачуў, што беларускі добраахвотнік пайшоў у безнадзейную сітуацыю і загінуў. І зноў я падумаў, што гэта можа быць Міраслаў, бо ён бы не ўседзеў, а пайшоў ратаваць сваіх малодшых сяброў. Так яно і было. Такія людзі будуць падмуркам новай Беларусі, але вельмі шкада, што яны ўжо не будуць удзельнічаць у яе пабудове, там ён сапраўды быў бы Генералам. Яго жыццё будзе натхняць новыя пакаленні на тое, каб давесці справу барацьбы за незалежнасць Беларусі да канца”.

### “Недаацэнены інтэлектуал Беларусі” і яго запавет

Журналіст, гісторык **Алесь Кіркевіч**: “Міраслаў найперш для мяне рыцар, настаўнік, прыклад і вялікі сябар. Ведаю, што для вялікай колькасці людзей Міраслаў быў найлепшым сябрам, узорам, я сустракаю людзей, якія так і кажуць: “Міраслаў мяне вучыў”. Мірык стварыў агромністую сетку людзей – і кожнаму нешта даў, з кожным камунікаваў. Мірык быў недаацэненым інтэлектуалам у Беларусі – абшар ведаў і глыбіня гэтых ведаў часам проста зашкальвалі, шырыня ягонага разумення. Ён бачыў усю карціну і гатовы быў пра яе распавесці. Разам з тым, ён быў у сілу прыроднай сціпласці чалавекам непублічным”.

### “Мірык натхняе і будзе яшчэ натхняць”

Старшыня Рады ЗБС “Бацькаўшчына”, каардынатарка кампаніі “Будзьма беларусамі” **Ніна Шыдлоўская**, былая жонка і паплечніца Міраслава: “Мне, відаць, пашанцавала найбольш – я вельмі добра ведаю Мірыка з 1995 года. Ізноў жа пашанцавала больш, чым каму – я яго ведала з розных бакоў. Як чалавека эрудзіраванага, які энцыклапедычнымі ведамі рознага роду проста жангляваў – яго можна было сярод ночы падняць штосьці запытаць і пачуць адказ. Ці, напрыклад, ён заснуў, расказваючы пра нешта, а прачнуўшыся – працягвае тэму. Я ведала яго як чалавека, ведала як дзеяча, ведала як аднаго з легіянераў. Нас Бог адарыў пачуццём, якое намнога большае, намнога больш каштоўнае і глыбокае, чым каханне, якое не знікае ні пры якіх варунках. І якое дазваляла, спыніўшы асабістыя стасункі, працягваць глыбіню чалавечых стасункаў. Мірык быў вельмі розны ў розных сітуацыях. Ой, як жа ён умеў злавацца! Ён рабіў шчыра і з глыбінёй душы абсалютна ўсё. Без яго апусцеў свет – гэта слаба сказаць. Гаворачы з ім, я сама пачынала лепш разумець падзеі, свет, людзей. У людзях – не памыліўся ніколі. Спадчына ад яго будзе яшчэ прарастаць дзесяцігоддзі наперад і даваць нам гэты грунт, і для мяне і для многіх нашых сяброў зверку каардынат – ці правільным шляхам мы ідзем.

Гэта адзін з тых, на каго абапіраецца наша Беларусь, да якой мы, спадзяюся, хутка дойдзем”.

На імпрэзе з любімымі песнямі Міраслава выступіў бард Зміцер Бартосік.

Вечарыну памяці завяршыў выступ гурта сярэднявечнай музыкі Lity Taler.

Рыгор Сапежынскі, budzma.org

навіны

# ЯК У БЕЛАСТОКУ БАЦЬКІ АБ'ЯДНАЛІСЯ, КАБ ІХ ДЗЕЦІ ВЕДАЛІ СВАЮ МОВУ І ТРАДЫЦЫІ

У Беластоку школьнікі з беларускай меншасці могуць вывучаць родную мову. Гэтага яшчэ 26 гадоў таму дамагліся бацькі. А пазней яны стварылі аб'яднанне АБ-БА (АБ'яднанне БАцькоў), каб засвойванне беларускай мовы і культуры было больш вясёлым і прывабным для дзяцей.

Гутарка са старшынёй АБ-БА Томашам Герасімюком пра праекты аб'яднання, адносіны з дыяспарай і пра тое, як зацікавіць дзяцей беларускай мовай і культурай.



Летнік малодшай групы. Чэрвень 2023 года. Фота са старонкі АБ-БА ў Фэйсбуку

## Адкуль тут столькі беларускага

Афіцыйна АБ-БА ўзнікла ў 2006 годзе. Але гісторыя арганізацыі пачалася ў 1995 годзе, калі жыхары Беластока дабіліся адкрыцця беларускамоўных груп у дзіцячым садку №14. Пазней дзякуючы іх намаганням выкладанне беларускай мовы з'явілася таксама і ў пачатковай школе №4.

– Яны хацелі даць дзецям магчымасць развіцця, каб вывучэнне гэтай мовы было больш прывабным, цікавым, каб дзеці мелі ад яе задавальненне, – тлумачыць Томаш.

Ствараць актыўнасці для дзяцей аб'яднанне пачало задоўга да свайго афіцыйнага ўзнікнення. Напрыклад, тэатральны гурток "Гульня ў тэатр" узнік яшчэ ў 1997 годзе, і зараз налічвае ў сваім рэпертуары больш за 20 пастаноў.

У 2000-10-х на базе школы №4 з'явілася студыя беларускага фальклору, вакальная група "Баламуткі", а таксама ансамбль танца "Падляшскі вянок", якія выступае на міжнародных конкурсах і прывозіць адтуль узнагароды.

Да таго ж удзельнікі аб'яднання на працягу двух гадоў ездзілі ў падляшскую вёску Тэраміскі і збіралі там успаміны мясцовых жыхароў, фатаграфіі, дакументы, вывучалі народныя песні. Вынікам гэтай працы стала кніга і спектакль "Ой, даўно, даўно… Беларускія гісторыі з Падляшша".

– Таксама ў нас ёсць летнія этнаграфічныя варштаты, якія мы называем проста "летнікі", – гэта калі дзеці едуць у летні лагер і пазнаюць там мясцовую беларускую культуру, традыцыю, гісторыю, можна так сказаць, на практыцы. Яны вучацца маляваць, выконваюць пластычныя працы, робяць розныя праекты, – расказвае Томаш.

Дзякуючы АБ-БА з'явіліся і падручнікі па беларускай мове для 1-6 класаў. Іх напісала настаўніца школы № 4 Аліна Ваўранюк. А яшчэ кожныя паўгода аб'яднанне выдае часопіс "Беларускі настаўнік". Таксама свет пабачылі розныя выданні, у тым ліку некалькі дыскаў з народнымі песнямі, дзіцячая кніжка "Прыгоды мышкі Пік-Пік" і кніга твораў Марыі Базылюк-Саснюк, настольныя гульні "У або Ў" і "Ад Буга за Нарву".

## Не толькі для меншасці, але і для дыяспары

Дзейнасць аб'яднання АБ-БА часткова фінансуецца са сродкаў Міністэрства ўнутраных спраў, Міністэрства нацыянальнай адукацыі, маршалка Падляшскага ваяводства і прэзідэнта Беластока. Грошы выдаюцца пад канкрэтныя праекты.

Па словах старшыні аб'яднання, сродкі выдаткоўваюць і самі бацькі. Напрыклад, для пакупкі танцавальных касцюмаў, паездак на выступы. Удзел у этнаграфічным летніку "таксама патрабуе фінансавага ўдзелу з боку бацькоў".

– Трэба разумець, што наша аб'яднанне створанае бацькамі дзяцей і функцыянуе дзякуючы ім, – тлумачыць Томаш. – Мы не з'яўляемся інстытуцыяй, якая мае пастаяннае фінансаванне, офіс і кола супрацоўнікаў, якія б маглі выконваць нейкія заданні. Усё, што робіцца, робяць бацькі, якія працуюць на іншых працах і маюць іншыя абавязкі. Ёсць толькі ідэя бацькоў, пошук сродкаў на гэтую ідэю і рэалізацыя гэтай ідэі.

Старшыня таксама падкрэслівае, што аб'яднанне, хоць і працуе ў школе №4 і падтрымлівае яе, але не з'яўляецца часткай ці органам гэтай навучальнай установы. Таму папулярызацыя беларускай культуры не абмяжоўваецца толькі сценамі школы. Асабліва добра гэта атрымліваецца ў ансамбля "Падляшскі вянок", які налічвае больш за 50 удзельнікаў, у тым ліку з іншых навучальных устаноў і нават з кола беларускай дыяспары.

– Мы ведаем, што дзеці, якія не вучацца ў школе №4, хацелі б быць удзельнікамі нашых праектаў, але ёсць патрабаванні і правілы, якія могуць гэтага не дазваляць. Але там, дзе яны дазваляюць, мы стараемся даваць магчымасць далучацца і дзецям, якія не вучацца ў "чацвёрцы", – запэўнівае старшыня аб'яднання.

АБ-БА ў асноўным дзейнічае для беларускай меншасці, то-бок грамадзян Польшчы, якія з'яўляюцца этнічнымі беларусамі. Але ў аб'яднанні хочуць, каб дзецям беларускіх эмігрантаў таксама далі магчымасць вучыць родную мову ў польскіх школах.

– Польскія законы не абмяжоўваюць удзел дзяцей ва ўроках беларускай мовы, калі бацькі склалі адпаведную заяўку, – тлумачыць Томаш. – Але калі ў дзіцяці няма польскіх дакументаў, гміна ці арганізацыя, якая вядзе навучанне, не атрымае даплаты ад Міністэрства адукацыі. Гэта варта разумець і падымаць у размовах, каб хутчэй уключыць дзяцей дыяспары ў сістэму навучання роднай мовы.

## Усё менш дзяцей хочуць вывучаць мову продкаў

Па словах Томаша Герасімюка, зараз у школе №4 каля 50 дзяцей вывучае беларускую мову. І большасць з іх прымае ўдзел у праектах АБ-БА. Але мужчына адзначае, што з кожным годам усё менш дзяцей хочуць вывучаць мову продкаў.

– Мы стараемся заахвочваць бацькоў, каб дзеці не забывалі гэтай мовы, каб яна не загінула, – дзеліцца старшыня аб'яднання.

Ён дадае, што вельмі шмат залежыць ад бацькоў – ад таго, ці хочуць яны быць часткай беларускай меншасці, ці адчуваюць сябе беларусамі, ці ўжо не.

– Можа, гэта праблема зручнасці для дзяцей, якія не хочуць вучыць дадатковую мову, ці, скажам, адчуванне, што беларуская мова не спатрэбіцца, – разважае Томаш.

Аб'яднанне АБ-БА будзе працягваць рабіць усё, каб навучанне беларускай мове працягвалася ў школах Падляшша. Ёсць вялікае жаданне арганізаваць варштаты ці канферэнцыю для настаўнікаў з падляшскіх гмін, каб іх падбадзёрыць, даць новыя прылады.

– Мы выдаём часопіс "Беларускі настаўнік" для тых, хто вучыць беларускай мове, – кажа Томаш. – Але незразумела, ці тая інфармацыя дасягае сваёй мэты. І з дапамогай такіх спатканняў, варштатаў мы маглі б атрымаць зваротную сувязь. Мы маглі б расказаць пра нашу дзейнасць, расказаць, як можна зрабіць выкладанне беларускай мовы больш прывабным. Мы маглі б абменьвацца вопытам.

Старшыня аб'яднання ўпэўнены, што выкладанне беларускай мовы ў школах Падляшша дае свае вынікі. Частка выпускнікоў такіх устаноў зараз самі актыўна ўдзельнічаюць у беларускім жыцці, у тым ліку і ў дзейнасці АБ-БА.

mostmedia.io

гутарка

# АНСАМБЛЬ БЕЛАРУСКАГА ТАНЦА ПРАДСТАЎЛЯЕ ПОЛЬШЧУ НА МІЖНАРОДНЫХ ПЛЯЦОЎКАХ

У Польшчы ёсць дзіцяча-моладзевы калектыў, які выконвае беларускія народныя танцы. Ансамбль "Падляшскі вянок" амаль дзевяць гадоў працуе ў Беластоку. Прапануем да вашай увагі гутарку з яго кіраўніцай, харэографам з Гродна Аксанай Прус, пра тое, ці можа нацыянальная меншасць прадстаўляць краіну, дзе жыве, і як традыцыйны танец змяняецца пад уплывам сучаснасці.

Падляшша для Аксаны не чужое: адсюль паходзіць яе бацька. Сама ж жанчына нарадзілася ў Гродне, там жа скончыла каледж мастацтваў, дзе і працавала да 2013 года. Пераехаць у Беласток беларуска вырашыла пасля шлюбу з палякам, да таго ж дачка Аксаны паступіла ў Беластоцкую палітэхніку.

## Пасаду намесніцы дырэктара прыйшлося змяніць на працу прыбіральшчыцай

Пасля пераезду пасаду намесніцы дырэктара гродзенскага каледжа мастацтваў прыйшлося змяніць на працу прыбіральшчыцай у прыватнай клініцы Беластока. Так доўжылася восем месяцаў, пакуль Аксана не знайшла падпрацоўку па спецыяльнасці ў адной балетнай школе.

– Потым я праз сваю знаёмую трапіла на сход бацькоў аб'яднання "АБ-БА" (займаецца прасоўваннем беларускай мовы і культуры сярод дзяцей і моладзі Падляшша. – Заўв. MOST) і сказала, што хацела б арганізаваць беларускія танцавальныя заняткі. Мне сказалі: вельмі добра. Аказваецца, яны даўно шукалі харэографа і не маглі знайсці. Так і пачалося, – успамінае беларуска.

Ансамбль "Падляшскі вянок" з'явіўся ў верасні 2015 года на базе беластоцкай пачатковай школы № 4 з дадатковым вывучэннем беларускай мовы. Пачыналася ўсё з адной групы, цяпер жа калектыў налічвае прыкладна 55 удзельнікаў і складаецца з трох узроставых груп: малодшай (9-12 гадоў), старэйшай (13-15 гадоў) і моладзевай (ад 16 гадоў). Таксама ёсць вакальная група.

За няпоўныя дзевяць гадоў ансамбль заваяваў мноства ўзнагарод, як на польскіх фестывалях, так і на міжнародных: у Балгарыі, Іспаніі, Італіі, Бразіліі, Партугаліі, ЗША, Фінляндыі, Германіі, Грузіі, Чэхіі і нават у Беларусі.

Сама Аксана лічыць, што найвышэйшай узнагародай і прызнаннем для "Падляшскага вянка" стаў удзел у канцэрце "Mazowsze i Przyjaciele" – гэта магчымасць станцаваць на адной сцэне з галоўным польскім народным харэаграфічным калектывам "Mazowsze", які існуе з 1948 года. Беларусы паказалі праграму "Родам з Падляшша".

– Сярод іншых польскіх калектываў мы вылучаемся сваёй школай, – запэўнівае харэограф. – Мы базуем сваю навуку так, як базуюць беларусы. Аснова гэтай школы – класічны танец. Таму мы "дзяўбаемся" з тым класічным танцам, з элементамі гімнастыкі, стрэтчынгу. У нас дзеці расцягваюцца, маюць фізічна моцныя заняткі, займаюцца пластыкай у станка. І "Mazowsze" нас выбрала менавіта за тое, што ў нас была добрая тэхніка, добрыя спіны, прафесійныя рухі.

## Як у ансамбль сталі прыходзіць польскія дзеці

Восем гадоў заняткі "Падляшскага вянка" раз на тыдзень праходзілі ў гімнастычнай зале школы № 4. Для другога на тыдні занятку арандаваліся больш прасторныя і зручныя памяшканні ў розных прыватных танцавальных школах. Але з верасня 2023 года ўсё змянілася.

– У жніўні дырэктар школы адмовіла нам у гэтых занятках, – кажа Аксана. – Яна казала, што спачатку трэба задаволіць сваіх. А мы нібыта не свае, атрымліваецца? Нам прапаноўвалі вельмі познія гадзіны, якія для нас зусім не падыходзяць. І вось мы, цэлы калектыў, былі вымушаныя шукаць, куды нам дзецца. Трэба пачынаць заняткі, а мы на вуліцы. І мы знайшлі сабе школу святых Кірыла і Мяфодзія (прыватную навучальную ўстанову ў Беластоку, дзе выкладаецца беларуская мова. – Заўв. MOST). І зараз займаемся там два разы на тыдзень.

Аксана абураецца, што зараз танцавальныя ўзнагароды ансамбля школа нават не ўпісвае дзецям у пасведчанні, якія выдаюцца пад канец года.

Непрыемная сітуацыя з новым кіраўніцтвам школы падштурхнула "Падляшскі вянок" набіраць вучняў не толькі з гэтай установы. Так у ансамбль сталі прыходзіць не толькі беларускія дзеці, але і польскія.

Зараз у калектыве займаюцца пяць палякаў. Нягледзячы на тое, што ўсе заняткі праходзяць па-беларуску, яны з цікавасцю іх наведваюць і вывучаюць беларускую мову.

– Але ў асноўным у нас этнічныя беларусы, – расказвае Аксана. – Яны ўсе пачыналі навуку ў школе № 4. Потым гэтыя дзеці працягваюць вучыцца ў ліцэях. І мы думалі, што яны перастануць танцаваць пасля пачатковай школы. Але ў нас калектыў развіўся да дарослай моладзі, у гэтым годзе з'явіцца першае пакаленне, якое будзе паступаць ва ўніверсітэты. Частка з маладых людзей плануе застацца ў Беластоку, і я думаю, яны працягнуць танцаваць у калектыве.

Сярод вучняў ёсць і дзеці з беларускай дыяспары, чые сем'і прыехалі ў Беласток пасля падзей 2020 года. Пакуль такіх танцораў толькі шэсць, але Аксана лічыць, што іх стане больш.



Выступ у Падляшскай філармоніі падчас гала-канцэрта фестывалю «Беларуская песня», 25 лютага 2023 года. Крыніца: Фэйсбук «Падляшскага вянка»

## "Каб паехаць на фестываль у Італію, на дзіця трэба выдаткаваць 3 тыс. злотых"

Адной з магчымых прычын, якія замінаюць некаторым беларусам з дыяспары аддаваць дзяцей у "Падляшскі вянок", Аксана называе грашовае пытанне. Хоць заняткі ў ансамблі бясплатныя, бацькам усё ж прыходзіцца спансаваць яго дзейнасць.

Частка бюджэту калектыву складаецца з фінансавання ад Міністэрства ўнутраных спраў – у асноўным гэтыя сродкі ідуць на зарплаты. Строі для выступаў часткова аплочваюцца ў рамках праектаў, са сродкаў бюджэту Падляшскага ваяводства ці Нацыянальнага цэнтра культуры. Напрыклад, апошнія строі каштавалі 42 тыс. злотых, з іх 32 тыс. кампенсавалі грошы праекта.

– Але ў асноўным нас спансуюць бацькі, – прызнаецца беларуска. – Зараз мы бяром з бацькоў кожны месяц 60 злотых за арэнду памяшкання. Цяпер мы плануем паехаць на фестываль у Італію, і на дзіця трэба выдаткаваць 3 тыс. злотых. Гэта выдаткі на гатэль, транспарт, экскурсіі. І вось бацькі цэлы год збіраюць гэтыя грошы. Мы, вядома, шукаем спонсара, але бацькоўская квота ёсць.

За ўдзел у польскіх конкурсах, якія праводзяцца амаль штомесяц, бацькі плацяць ад 45 да 100 злотых за чалавека, танцавальныя боты на хлопца каштуюць 85-90 долараў, на дзяўчынку – 40 долараў. Сёлета бацькі дадавалі на шыццё строяў па 250 злотых, таксама трэба плаціць і за іх перашыванне, бо дзеці растуць.

– Гэта такія звыклыя выдаткі проста на тое, каб выйсці на сцэну, – тлумачыць беларуска.

"Падляшскі вянок" ужо дарос да таго ўзроўню, калі яго запрашаюць на аплатныя канцэрты, хоць і не так часта, як хацелася б. Часам калектыў прывозіць грашовыя прэміі з фестываляў.

– Гэта вельмі важна, бо дзеці адчуваюць, што гэтыя грошы яны самі зарабілі, – падкрэслівае Аксана.

Матывуюць дзяцей і неграшовыя ўзнагароды на конкурсах. На іх падставе польскія ўлады штогод выпісваюць вучням прэміі. Напрыклад, у гэтым годзе 11 танцораў былі адзначаныя стыпендыяй

маршалка Падляшскага ваяводства, а стыпендыю прэзідэнта Беластока за 2023 год атрымала ўся маладзевая група і вакалістка.

**“Стараемся пачынаць з чагосьці польскага, а ўжо потым моцна б’ём па-беларуску”**

У верасні плануецца ўрачыстае адкрыццё дзясятага юбілейнага сезона. Запланаваны сапраўды вялікі канцэрт.

Аксана падкрэслівае, што танцы “Падляшскага вянка” хоць і абапіраюцца на беларускую традыцыю і народную харэаграфію, але выконваюцца ў класічным сцэнічным варыянце.

Кожны год у ансамблі з’яўляюцца новыя нумары, і хоць асновай заўсёды былі і будуць беларускія танцы, у рэпертуары пачынаюць з’яўляцца прыклады сусветнай харэаграфіі. Напрыклад, пасля паездкі ў Грузію з’явіўся грузінскі рэпертуар, пасля Чэхіі – чэшская полька. Цяпер плануецца асвоіць венгерскі чардаш.

Таксама ў сваіх танцах “Падляшскі вянок” прэзентуе Польшчу. Асабліва гэта важна на міжнародных фестывалях і конкурсах. Беларуска адзначае, што сітуацыі, калі краіну прадстаўляюць танцоры з меншасці, зараз здараюцца даволі часта.

– Напрыклад, калі мы былі ў Грузіі, там быў турэцкі калектыў, які прадстаўляў грузінскую меншасць, – тлумачыць харэограф. – Але і яны, і мы абавязаныя прэзентаваць і краіну, адкуль прыехалі. Таму ў нас ёсць, напрыклад, польска-беларускі паланэз, мы таксама зрабілі ў беларускім стылі кракавяк. На конкурсах мы стараемся пачынаць з чагосьці польскага, каб падкрэсліць краіну, а ўжо потым моцна б’ём па-беларуску.

**“Людзі, да якіх чапляецца танцавальная бацыла, заўсёды хочуць танцаваць”**

Па словах Аксаны, дзецям падабаецца займацца народнымі танцамі, хаця, каб зацікавіць імі сучасных дзяцей, трэба пастарацца. Адным з метадаў матывацыі харэограф называе сумесныя варштаты, калі вучні выязджаюць некуды на некалькі дзён, “закрываюцца ад усіх і працуюць ад рана да вечара”. Так ствараецца асаблівая атмасфера еднасці.

– Я думала, што зараз моладзь не вельмі любіць усю гэтую беларускую традыцыю і фальклор, – працягвае Аксана. – Але не. Я бачыла, як мае хлопцы, якія часам непаслухмяныя, сядзяць сабе ў кутку і беларускія песні спяваюць. Так што тое, што мы ім даем, не праходзіць дарам. Наогул, людзі, да якіх чапляецца танцавальная бацыла, потым заўсёды хочуць танцаваць.

Беларуска кажа, што фальклор сёння становіцца модным. І трэба не баяцца яго спалучаць з нечым сучасным. Напрыклад, у некаторых карагодах “Падляшскага вянка” ёсць элементы культуры джазу, а ў будучым Аксана плануе паспрабаваць фолькрок-спалучэнне.

– Некаторыя дзеячы мяне асуджаюць, маўляў, вашыя танцы не традыцыйныя. Я кажу: і што? Яны маюць права быць. Гэта сцэнічная версія традыцыйнага фальклору.

**mostmedia.io**




навіны

## ДЗІЦЯЧАМУ ГУРТКУ “КАЛЕБКА” Ў ГАЙНАЎСКІМ САДКУ №1 – 20 ГАДОЎ

Дзіцячаму гуртку “Калебка”, што дзейнічае пры садку №1 з дадатковай беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы споўнілася 20 гадоў. З гэтай нагоды бацькі і настаўніцы дзяцей зладзілі ля Музея беларускай культуры свята юбілею гуртка. А вучні ў нацыянальных беларускіх строях паказалі ўсе свае таленты, якім навучыліся за гэты год.

Сёння “Калебка” – гэта 38 навучэнцаў 1-га гайнаўскага садка з дадатковай беларускай мовай навучання ад 4 да 6 гадкоў. А таксама – і згуртаванне іх бацькоў, бабуль і дзядуль.

**Юрась Дзяшук, racyja.com**

# ПОМНІК ЯНКУ КУПАЛУ З’ЯВІЎСЯ Ў АШХАБАДЗЕ



У сталіцы Туркменістана ўсталявалі помнік беларускаму песняру. Пра адкрыццё помніка паведаміла амбасада Беларусі ў Туркменістане.

У рамках святкавання 300-годдзя з дня нараджэння туркменскага паэта і філосафа Махтумкулі Фрагі у перадгор’ях Капетдага быў адкрыты культурна-паркавы комплекс “Махтумкулі Фрагі”.

На тэрыторыі комплексу ўсталявалі 60-метровы манумент туркменскаму паэту Махтумкулі Фрагі, а побач паставілі помнікі яшчэ 25 класікам замежнай літаратуры і мастацтва. У ліку іх і беларускі класік Янка Купала.

**budzma.org**

навіны

# ШВЕЦЫЯ НАКІРУЕ 430 ТЫСЯЧ ЕЎРА Ў ФОНД ПАДТРЫМКІ БЕЛАРУСКІХ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

Урад Швецыі выдзеліць 5 млн крон (каля 430 тысяч еўра) для Міжнароднага гуманітарнага фонду падтрымкі палітвязняў Беларусі. Паводле інфармацыі "Парламенцкага канала", пра гэта на Стакгольмскай канферэнцыі па Беларусі 21 траўня заявіў міністр міжнароднага развіцця, супрацы і знешняга гандлю Ёхан Форсель.



Пра тое, што чыноўнік мае намер абвясціць пра гэты крок, раней паведамляла прэс-служба шведскага ўрада.

На форуме, як сцвярджае "Парламенцкі канал", Форсель заявіў, што "Швецыя дакладна падтрымлівае дэмакратычную Беларусь".

30 красавіка галоўны дарадца дэмакратычнай лідаркі Святланы Ціханоўскай Франак Вячорка паведаміў "Позірку", што першы ўнёсак у фонд падтрымкі беларускіх палітвязняў зробіць Осла – 10 млн нарвежскіх крон (850 тысяч еўра).

Фонд накіраваны на падтрымку сем'яў рэпрэсаваных і былых палітвязняў. Гаворка пра медыцынскую дапамогу і рэабілітацыю, матэрыяльную і псіхалагічную дапамогу вызваленым палітвязням і асобам, якія зазналі палітычныя рэпрэсіі. Распараджацца сродкамі фонду будуць беларускія арганізацыі і ініцыятывы, якія дапамагаюць палітвязням.

Паводле інфармацыі Вячоркі, Міністэрства замежных справаў Нарвегіі працуе над фармалізацыяй працы фонду. Уносіць сродкі змогуць урады краін, міжнародныя арганізацыі і іншыя донары.

З ініцыятывай стварыць такі фонд Ціханоўская выступіла пасля таго, як палітвязень, заснавальнік і кіраўнік праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі быў уганараваны Нобелеўскай прэміяй міру ў 2022 годзе.

Беларускія праваабаронцы абвясцілі 21 траўня Днём салідарнасці з палітвязнямі – у гэты дзень у 2021 годзе ў шклоўскай калоніі № 17 (Магілёўская вобласць) пры загадкавых абставінах памёр актывіст Вітольд Ашурак.

На раніцу 21 траўня ў Беларусі 1.374 чалавекі, якіх праваабарончая супольнасць прызнае палітвязнямі. Рэальная колькасць людзей, якія зазналі рэпрэсіі ў той ці іншай форме, значна большая.

pozirk.online

in memoriam

# ПАЙШЛА Ў ЛЕПШЫ СВЕТ МАРЫЯ АЗАРКА

22 красавіка 2024 не стала сп. Марыі Азарка (Марушка), прадстаўніцы паваеннага пакалення беларускай эміграцыі, якое не забывала на чужыне пра Бацькаўшчыну і ўвесь час працавала дзеля падтрымкі беларускага жыцця ў Амкрыцы. Адышла ва ўзросце 94 гадоў у сваім доме ў Сомэрсэце ў Нью-Джэрсі, дзе жыла апошнія 63 гады.



Сп. Марыя нарадзілася ў Беларусі, у мястэчку Антопаль, цяпер Драгічынскі раён Берасцейскай вобласці, у сям'і Тэадосія і Марыі Марушкаў. Прыехала ў Амерыку 75 гадоў таму, далучыліся да беларускай грамады ў Нью-Джэрсі. Разам з мужам Янкам Азаркам былі актыўнымі ўдзельнікамі беларускага грамадскага жыцця, сябрамі Беларуска-Амерыканскага Задзіночання. Нацыянальна свядомымі беларусамі выхавалі і сваіх дзяцей. Сын Юрка Азарка доўгі час узначальваў Аддзел БАЗА ў Нью-Джэрсі.

Да выхаду на пенсію сп. Марыя цягам 25 гадоў працавала тэхнікам па кантролі за якасцю ў кампаніі "Ward Products" у Нью-Брансуіку.

Належала да Парафіі Царквы Св. Жыровіцкае Іконы Божай Маці ў Гайленд-Парку. Спявала ў царкоўным хоры.

У смутку пакінула сына Юрку і дачку Ірэну, нявестку Нону і ўнукаў Крыстафэра і Марка. Выказваем усім ім самыя глыбокія спачуванні з гэтай незваротнай страты.

Галоўная управа БАЗА; "Беларус"

**Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні ўсім родным і блізкім**

## Беларускі каляндар памятных дат на чэрвень 2024 года

**1 чэрвеня**
• 70 гадоў таму, у 1954-м, нарадзіўся Алесь Асташонак, пісьменнік. Памёр у 2004-м.

**4 чэрвеня**
• 40 гадоў таму, у 1984-м, памёр Язэп Пігулеўскі, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Бразіліі і Парагваі.

**6 чэрвеня**
• 90 гадоў таму, у 1934-м, памёр Браніслаў Эпімах-Шыпіла, выдавец, мовазнавец, літаратуразнавец.

**13 чэрвеня**
• 190 гадоў таму, у 1834-м, нарадзіўся Канстанцін Вераніцын, літаратар. Памёр у 1903-м.
• 135 гадоў таму, у 1889-м, нарадзіўся Павел Жаўрыд, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання. Памёр у 1939-м.

**16 чэрвеня**
• 190 гадоў таму, у 1834-м, нарадзіўся Аляксандр Ельскі, гісторык, этнограф, пісьменнік. Памёр у 1916-м.
• 25 гадоў таму, у 1999-м, памёр Мікола Нікан, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Аўстраліі.

**17 чэрвеня**
• 90 гадоў таму, у 1934-м, адбыўся нелегальны з'езд Таварыства Беларускай Школы.
• 70 гадоў таму, у 1954-м, памёр Барыс Мікуліч, пісьменнік.

**19 чэрвеня**
• 100 гадоў таму, у 1924-м, нарадзіўся Васіль Быкаў. Памёр у 2003-м.

**20 чэрвеня**
• 60 гадоў таму, у 1964-м, памёр Пётр Сыч, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Нямеччыне.

**21 чэрвеня**
• 160 гадоў таму, у 1864-м, нарадзіўся Аляксандр Сержпутоўскі, этнограф і фалькларыст. Памёр у 1940-м.

**24 чэрвеня**
• 35 гадоў таму, у 1989-м, у Вільні адбыўся Ўстаноўчы з'езд Беларускага Народнага Фронту „Адраджэнне".

**26 чэрвеня**
• 205 гадоў таму, у 1819-м, памёр Францішак Нарвойш, багаслоў, філосаф, матэматык.
• 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Антон Адамовіч, гісторык, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1998-м.

**27 чэрвеня**
• 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Сяргей Знаёмы (сапр. Сяргей Клопаў), пісьменнік.
• 35 гадоў таму, у 1989-м, у Мінску прайшоў Устаноўчы з'езд Таварыства Беларускай Мовы імя Францыска Скарыны.

**29 чэрвеня**
• 90 гадоў таму, у 1934-м, памёр Эдуард Пякарскі, лінгвіст, этнограф, географ.

**30 чэрвеня**
• 55 гадоў таму, у 1969-м, памёр Міхайла Грамыка, псьменнік, вучоны.

**Беларусы ў свеце**
№ 5 (264), травень 2024
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com